ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 42 (2392) 20 кастрычніка 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 20 рублёў.

## *ШАНС І НАДЗЕЯ Адама ПАЛЮХОВІЧА*



# "DAINOVA". "МЭЛЁДЫЯ МАГУТНАСЬЦІ"

*Калі вярталася аўтобусам позна ўвечары пасля размовы з прэзідэнтам вядомай фірмы "DAINOVA" А. Палюховічам дахаты і чула адну толькі рускую гаворку пасажыраў, чамусьці згадаліся радкі з песні В. Бутусава "Ален Делон говорит по-французски". І адразу захацелася іх перафразаваць накшталт: "Адам Палюховіч размаўляе па-беларуску". Бо, калі кіраўніка расійскай групы "Наўцілус-Пампіліус" нават і засмучае, што сусветна вядомы французскі акцёр размаўляе на роднай мове, гэта наўрад ці можа ўразіць французаў. А вось факт, што прэзідэнт буйной вытворчай кампаніі размаўляе па-беларуску, а таксама і большасць яго супрацоўнікаў, што ні кажы, выглядае ў Беларусі пакуль што як надзвычайная падзея.*

*На сустрэчу, якая была прызначана на самы канец працоўнага дня, я ішла з надзеяй паразмаўляць без ніякіх перашкод, вочы ў вочы, і... памылілася. Нехта ўжо сышоў, а іншыя не спяшаліся. Спадар Палюховіч быў яшчэ заняты. На нейкае імгненне ён "з'явіўся перада мной, як ліст перад травой", папрасіў прабачэння і зноў знік. Ведаючы, колькі ў нашым жыцці непрадбачанага, я не вельмі здзівілася і нават узрадавалася, бо мела час азірнуцца вакол, углядзецца ў твары, нават адчуць дух кампаніі. Праз хвілін 20--25, не знайшоўшы вольнага пакоя, мы сядзелі насупраць аднаго з супрацоўнікаў і вялі гаворку аб звычайнай і незвычайнай маленькай незалежнай дзяржаве пад назвай "DAINOVA" і яе кіраўніку.*

**-- Спадар Палюховіч, напачатку раскажыце трошкі пра сябе.**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ

# УСЕ МАЕ СНЫ БЫЛІ БЕЛАРУСКІЯ

### НА ПЫТАННІ КАРЭСПАНДЭНТА "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ" АДКАЗВАЕ Генадзь БУРАЎКІН

**У адным з апошніх нумароў "Голасу Радзімы" была надрукавана нізка вершаў Генадзя Бураўкіна з кнігі "Узмах крыла", якія папярэдне з'явіліся ў часопісе "Полымя". Самі вершы і ўсё, што хвалюе паэта і грамадзяніна Генадзя Бураўкіна сёння, стала тэмай гаворкі, якая змяшчаецца ніжэй.**

*-- Ад суайчыннікаў, якія доўгія гады пражылі ў чужых краінах, не раз даводзілася чуць, што толькі на Радзіме ім сапраўды лёгка дыхаецца, што толькі тут яны адчуваюць сябе сапраўды шчаслівымі. Як вы, Генадзь Мікалаевіч, перажылі адрыў ад Беларусі, як вам жылося ў Амерыцы?*

-- Адказаць на гэта проста і няпроста, таму што так доўга далёка ад Радзімы я быў упершыню ў сваім жыцці. Настальгію, а больш дакладна, тугу па Радзіме, я адчуваў на сабе вельмі і вельмі востра. Я трапіў у новае асяроддзе, якое і псіхалагічна, і па нейкіх іншых параметрах не было мне блізкім. Тое, што перадалі маці з бацькам, выхавалі грамадства, дзяржава, бясследна нікуды не знікае, хаця ты і разумееш, што сёе-тое ў нашым грамадстве трэба мяняць. Жывучы дома, сярод сваіх, многае не заўважаеш і не цэніш, а ў чужой старане бачыш па-іншаму, і цана ўсяму робіцца іншай. А я ж не проста жыў у Амерыцы, а працаваў у ААН, дзе люду з усяго свету было і кожны нёс у сабе не толькі прадстаўнічыя функцыі, а і менталітэт свайго народа. І таму мне яшчэ больш відавочным стала ў маім народзе і тое добрае, што ў ім было і ёсць, за што яго цэняць -- за дабрыню, працавітасць, талерантнасць, -- і рысы, не надта, на мой погляд, станоўчыя.

*-- Усё, як у вашым вершы: такі народ, церпіць дармаедаў, адракаецца ад мовы, трывае дурныя кпіны. І ў той жа час: "Мой Бог -- народ. І больш няма Багоў. Ні на зямлі бязбожнай, ні на небе"...*

-- Менавіта так. Мне не падабаецца, калі цярплівасць, талерантнасць пераходзяць межы разумнага, калі пануе прыніжаная годнасць, надзвычайная паслухмянасць "начальству", прывычка азірацца на чужых, лічачы, што ў суседзяў заўсёды ўсё лепшае. Мы ўвесь час недаацэньваем сябе і дзеля нейкіх уяўна высокіх мэтаў гатовы паступіцца гісторыяй, адмовіцца ад роднай мовы...

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## Мікалай ВАДАП'ЯНАЎ:

## "Я ЗА ПАРЫТЭТ КАМЕРЦЫІ І КУЛЬТУРЫ"

# АЖЫВАЕ ВЕРХНІ ГОРАД

I

Я вельмі люблю Мінск. Кажуць, прычыны для любові не трэба. Яна ці ёсць, ці яе няма. Калі любіш горад, то даруеш яму і аднастайныя шматпавярхоўкі, і брудныя вуліцы. Даруеш, бо ведаеш у гэтым горадзе нешта толькі сваё -- дух, які жыве ў пэўных вулачках, парках.

А вось калі даводзіцца паказваць Мінск госцю, пачынаюцца складанасці. Ну пакажаш яму помнік Перамогі, музеі, Траецкае прадмесце. І ўсё. Ты ж добра разумееш, што твой Мінск -- адзін з самых знявечаных гісторыяй гарадоў у Еўропе. Яго разбуралі і свае, і чужыя. Аднак не толькі госць горада, але і ты сам не можаш зразумець, чаму людзі, якія жывуць у Мінску, такія абыякавыя да ягонай гісторыі, да ягонай прыгажосці. Дзесяткі гадоў нікога не цікавіў лёс гістарычнага цэнтра Мінска. Праўда, адрэстаўрыравалі Траецкае прадмесце, на якое вельмі прыемна глядзець: яно нагадвае прыгожую цацку. Хай сабе кажуць, што вобраз, створаны рэстаўратарамі, ідэалізаваны, што быццам і дахі, і колер дамоў не такі.

(Заканчэнне на 4-й стар.).



Траецкае прадмесце — адзін з прывабных куточкаў Мінска.

НА ЗДЫМКУ: музей Максіма БАГДАНОВІЧА ў прадмесці.

Фота Віктара СТАВЕРА.

# "DAINOVA". "МЭЛЁДЫЯ МАГУТНАСЬЦІ"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

-- Нарадзіўся ў Мінску ў 1957 годзе. Бацькі -- людзі простыя з вёскі: маці з Чэрвеньскага раёна, бацька -- з былога Ракаўскага. Скончыў звычайную сярэднюю школу. Захапляўся матэматыкай, фізікай, таму далейшым крокам была вучоба ў Белдзяржуніверсітэце на факультэце прыкладной матэматыкі. Потым праца ў дзяржустановах праграмістам, кіраўніком аддзела, групы, сектара.

**-- Вы былі адным з заснавальнікаў фірмы "DAINOVA"...**

-- Гэта так і не так. "DAINOVA" ўзнікла ў верасні 1991 года на месцы іншага прыватнага прадпрыемства, былога кааператыва. Гэта было сапраўды нестандартнае прадпрыемства, якое стварылі людзі творчыя і ініцыятыўныя, сярод іх былі старшыя навуковыя супрацоўнікі, загадчыкі аддзелаў, кіраўнікі розных структур. Яны імкнуліся стварыць нешта новае ў сэнсе працы, заробку, а таксама размеркавання вольнага часу. Усё, што яны рабілі, было звязана з вылічальнай тэхнікай, вырабам нейкіх нестандартных сродкаў гэтай тэхнікі, доследнай вытворчасцю. Праз два гады прадпрыемства мусіла разваліцца, бо яно не магло складацца з адных кіраўнікоў, а ўсе яго сябры былі ў пэўным сэнсе асобы кожны сам па сабе. Вось на гэтых падмурках і ўзніклі некалькі фірмаў, у тым ліку і "DAINOVA". Усе яны, дарэчы, у добрых стасунках паміж сабой да сённяшняга дня.

**-- "DAINOVA" -- буйная фірма, якую добра ведаюць не толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі. За нядоўгі тэрмін вы дасягнулі пэўных поспехаў. Больш таго, ваша кампанія прыкметна адрозніваецца ад шэрагу прадпрыемстваў такога кшталту. Гэта амаль што адзіная сапраўды нацыянальная кампанія. Сёння можна пачуць скаргі, што немагчыма перавесці справаводства на беларускую мову. Як гэта спалучаецца ў вас!**

-- Тут я не рабіў бы з аднаго высновы поспеху другога. Свайго прафесійнага ўзроўню мы ж дасягнулі не таму, што размаўляем па-беларуску і наадварот. У нас гэтыя рэчы ідуць паралельна. Кожны чалавек мусіць рабіць тое, што адпавядае яго ўнутранаму пачуццю, ягонай душы. Пасля разбурэння кааператыва, пра які я згадваў, з яго выпучыліся чацвёра, людзі са сваім светапоглядам, больш таго, гэта былі сябры дзяцінства. Яны і ўтварылі фірму "DAINOVA". Хіба я размаўляю з вамі па-беларуску толькі таму, што даю інтэрв'ю шаноўнай газеце? Гэта мая родная мова! І з усімі сваякамі, сябрамі, супрацоўнікамі размаўляю на ёй. Але, з другога боку, зразумела, што ў нашых умовах фармаваць калектыў на моўных прынцыпах, на жаль, пакуль што немагчыма. Відавочна, перавагу тут мы аддаем чалавечым якасцям і прафесійнаму ўзроўню -- інакш фірма будзе неканкурэнтаздольнай. І ўсё ж, нягледзячы на тое, што людзі прыходзяць розныя -- свядомыя і несвядомыя, -- усе яны з разуменнем ставяцца да нашай справы, эвалюцыянуюць, і з цягам часу самі імкнуцца размаўляць па-беларуску. Адзінае выключэнне, якое мы сабе можам дазволіць, -- нашы спажыўцы. Яны прыносяць нам грошы, і з імі мы гатовы размаўляць хоць на мове Буркіна-Фасо. Бізнес ёсць бізнес.

**-- Вы пачыналі з камп'ютэраў і захапілі беларускі рынак. Сёння вы ўжо забяспечваеце амаль усю дзяржаву чорным металам.**

-- Гэта праўда, мы пастаўляем дзесяткі тысяч тон металу. Металу каштоўнага, якога ў Беларусі няма, але забяспечваем пакуль не ўсю дзяржаву. Так што перспектывы для росту тут ёсць. За гады існавання мы спецыялізаваліся ў розных галінах, у тым ліку і ў напрамку бытавой тэхнікі фірмы "PHILIPS", іншых тавараў. Але ніякіх сакрэтаў ці "know how" тут няма. "Know how" -- гэта "ведаю, як", і нашае галоўнае "know how" складаюць самі спецыялісты. Я ведаю, хто на што здольны, хто што можа зрабіць. Увогуле механізм кожнай здзелкі вельмі просты: адзін бок плаціць іншаму і атрымлівае тое, за што заплаціў. Як ні дзіўна, гэта не заўсёды атрымліваецца. Існуюць перашкоды, нейкія мясцовыя праблемы, як перавод грошай, межы, чыгуначныя накладкі. І тым не менш, неяк рухаемся наперад.

**-- Апошнім часам ідзе шмат гаворкі аб карупцыі, якая захапіла бізнес. Да слова бізнес дадаецца слова "па-савецку". Як, на вашу думку, бізнес і маральнасць -- гэта паняцці сумяшчальныя!**

-- Бізнес па-савецку... Я разумею, што маеце на ўвазе. Але ў тых абставінах, у якіх мы апынуліся, і пры той спадчыне, што мы атрымалі, ён і не можа быць інакшым, гэта значыць "несавецкім". Але ён мусіць стаць нармальным, як і паўсюль, праз пяць, дзесяць гадоў. Тут нельга прызначыць пэўную дату. На жаль, гэта справа часу. А пакуль можаце лічыць, што мы ў ім ужо ўдзельнічаем і на яго працуем. З аднаго боку -- паўжарт, а калі паглядзець з другога -- дык на гэта ёсць падставы. Мы ніколі ніякім чынам не былі звязаны ў гаспадарчай дзейнасці ні з Вярхоўным Саветам, ні з урадам, ні з іншымі кіруючымі ўстановамі. Мы ніколі не прасілі льготных ліцэнзій, не займаліся рээкспартам нафты ці іншай сыравіны. Прызнаюся, у той час, калі мы яшчэ працавалі ў кааператыве, а былыя партыйныя ўлады толькі пачыналі ствараць пры сабе камерцыйныя структуры, былі пэўныя прапановы на "супрацоўніцтва". Але мы ніколі не звязваліся з уладу маючымі, а таму сёння захавалі сваю незалежнасць, і гэта вельмі важна.

**-- Змены ў Беларусі адбываюцца, магчыма, не так хутка, як таго жадалася б, і тым не менш: абраны першы прэзідэнт, створаны новы ўрад. Хацелася б пачуць вашу думку на гэты конт, а таксама даведацца, ці падабаецца вам сённяшні час.**

-- Чалавек вольны настолькі, наколькі ён унутрана вольны. Таму мне падабаецца ўсякі час. Усё залежыць ад асобы.

Што тычыцца змен, я разглядаю іх як вельмі станоўчыя. І самае галоўнае тут тое, што папярэдняя каманда расфарміравана. У цяперашніх умовах нельга ўсё змяніць адразу, а каб даць пэўную ацэнку, патрэбен час, таму разумныя людзі спачатку прызначаюць тэрмін: 100 дзён, паўгода і г.д. дзеля таго, каб вызначыцца. На жаль, я не прысутнічаў на сустрэчы прэзідэнта з дзелавымі коламі, але зыходзячы з таго, што мне давялося пачуць, можна зрабіць высновы, што, нягледзячы на ўсе рухі новай каманды ўлева--ўправа, жыццё і ўмовы вымушаюць іх прытрымлівацца рэалістычных пазіцый. Зразумела, што нейкі час мы будзем залежаць ад вонкавых пазабеларускіх павеваў. Тыя 70 гадоў не могуць не адбіцца на лёсе Беларусі. Ды і чаму 70? Нават 270, а то і болей. Але як сказаў вядомы палітык, "працэс пайшоў", і спыніць яго я ўжо не бачу магчымасці.

**-- Ваш дэвіз: "Традыцыі і сучаснасьць" добра вядомы кожнаму грамадзяніну Беларусі. Пра вас нельга сказаць, што жывяце за кошт народа, а грошы траціце на круізы ці машыны-іншамаркі. Вы пастаянны фундатар амаль усіх нацыянальных святаў, іншых імпрэз. Беспрэцэдэнтным, на маю думку, з'яўляецца прызначэнне пажыццёвай пенсіі Міколу Ермаловічу -- вядомаму нашаму гісторыку, які застаўся па-за ўвагай сваёй дзяржавы...**

-- Сапраўды Мікола Ермаловіч ёсць чалавек, які ў сваім жыцці зрабіў вельмі шмат для Беларусі, для таго, каб напісаць сапраўдную гісторыю нашай дзяржавы. Памятаю той час, калі мы юнакамі чыталі некаторыя рукапісныя варыянты яго гісторыі. Ён адзіны з нямногіх, хто працаваў усё жыццё, ніколі не разлічваў на ўзнагароду, меў адну толькі патрэбу -- працаваць.

А ў тым, што мы робім на карысць беларускай справы, няма нічога незвычайнага. Ёсць жаданне нейкім чынам рабіць і некамерцыйны ўплыў, каб ведалі, што беларуская мова вельмі прыгожая, што ў нас вельмі прыгожыя краявіды, багатая мінуўшчына, цудоўныя людзі. Я беларускі грамадзянін і гэтым ганаруся. Я ганаруся і тым, што з дзесятка пакаленняў сваіх продкаў я -- першае пакаленне, што жыве ў незалежнай дзяржаве. А гэта і шчасце, і адказнасць, шанс і надзея на нешта новае.

**-- Каб дасягнуць таго ўзроўню, што фірма мае сёння, патрэбна шмат сіл і часу. А ці бывае ў вас вольны час!**

-- Так, ёсць. Ён з'яўляецца, калі пераразмяркоўваеш працу паміж іншымі. Цікава, што новыя тактычна-стратэгічныя накірункі выпрацоўваюцца пераважна ў гэты вольны час. Таму ў нас стымулюецца не браць усю справу на сябе, а яе размяркоўваць. Тады вызваляецца час, ты спыняешся і пачынаеш думаць, што рабіць далей, пра новы ўзровень працы. Набліжаешся да нейкай умоўнай мэты, недасягальнай вышыні.

**-- Вы пачыналі ўчацвярых. Сёння "DAINOVA" налічвае амаль сто супрацоўнікаў. Гэта зашмат і для дзяржаўнай установы. Як фармаваўся калектыў? Ці задаволены вы ім і што яшчэ хацелася б у яго прыўнесці?**

-- "DAINOVA" мне падабаецца як сваё дзіця, як свая сям'я. Тут сапраўды сабраліся аднадумцы, выпадковых людзей тут няма. Усіх з гэтых 100 чалавек мы ці ведалі, ці ўзялі па рэкамендацыі каго-небудзь з фірмы. У нас нулявая цякучка. Усе супрацоўнікі высокаадукаваныя, высокакваліфікаваныя спецыялісты. Кожны дзень мы ўсе разам абедаем -- фірма аплачвае. Гэта якасная ежа. Да таго ж не губляецца час, а таксама ёсць магчымасць пабыць усім разам. Нядаўна на выхадныя некалькі дзесяткаў чалавек хадзілі ў паход з начоўкай. Разам адзначаем святы: Каляды, Міжнародны жаночы дзень і г.д. Натуральна, што згодна з сацыяльным законам ствараюцца ячэйкі больш блізкіх людзей, але гэта нармальна. Галоўнае: ёсць еднасць у агульнай справе. Ну а чаго яшчэ жадалася б? Заўсёды хочацца, каб было лепш. Хочацца зрабіць так, каб чалавек прыходзіў на працу і праца для яго была адпачынкам.

*Але мне падаецца, што гэта мэта Адама Палюховіча ў нейкім сэнсе ўжо дасягнута. Калі мы з ім развіталіся а 8-й увечары, яго яшчэ чакалі тыя, для каго "DAINOVA" ўжо стала і домам, і адпачынкам. Гэта новыя людзі з разумнымі вачыма, прыгожымі спакойнымі тварамі, з пачуццём годнасці і гонару. Яны паважаюць адзін аднаго, шануюць сваю мінуўшчыну, людзі, якія могуць і прагнуць працаваць. На маю думку, у іх атрымалася спалучыць неспалучальнае і ўвасобіць у сабе ўсё лепшае "нашае" і "іхняе". Дзяржаве ніколі не будзе сорамна за такое прадстаўніцтва. "DAINOVA" -- гэта, "традыцыі і сучаснасьць", як гаворыцца ў адной з рэклам фірмы, "мэлёдыя магутнасьці", якая гучыць, і ёсць спадзяванне, што ў хуткім часе гукі яе зачаруюць і іншых.*

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**P.S. Калі артыкул рыхтаваўся да друку, у Мінску адбылося адкрыццё выставы твораў амерыканскай мастачкі беларускага паходжання Тамары Стагановіч. І зноў у ліку асноўных фундатараў імпрэзы першай у спісе была пазначана "DAINOVA".**






**Сёння выглядае недарэчнай і ненармальнай сітуацыя, якая існавала яшчэ некалькі гадоў назад: нібы былі тыя беларусы на Беласточчыне і нібы іх там не было. Мы нешта ведалі пра іх, а большасць дык і нічога не ведала. Мяжа так урэзалася ў нашы душы, нашу свядомасць, што яшчэ і сёння пачуеш: "А якая нам справа да тых беларусаў! Хіба што з'ездзіць у Беласток на барахолку..."**

**Але ўсё ж такі сёння, здаецца, Беларусь і этнічна беларуская Беласточчына ў Польшчы духоўна ўсё больш збліжаюцца. Гэта выяўляецца ў тым, што наша дзяржава па меры сваіх сіл дапамагае беластоцкім беларусам у будаўніцтве культурнага жыцця. Гэта выяўляецца і ў тым, што нацыянальна-свядомыя колы грамадскасці рэспублікі жывуць супольным духоўным жыццём з нашымі братамі -- беларускай дыяспарай у Польшчы. Пацвярджэнне гэтаму -- нядаўна адзначаны 50-гадовы юбілей беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляскім. Пра яго "Голас Радзімы" пісаў у N 40. А сёння змяшчаем дзве фатаграфіі з фотарэпартажу, які, на жаль, прыйшоў са спазненнем.**

**НА ЗДЫМКАХ: будынак ліцэя імя Б. Тарашкевіча; мемарыяльная дошка, прысвечаная Яраславу Кастыцэвічу, аднаму з заснавальнікаў ліцэя.**

**МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ЧАРНІГАВЕ**

## ВЯРНУЦЬ СПАДЧЫНУ

Праблемам вяртання нацыянальна-культурных каштоўнасцей, згубленых у перыяд другой сусветнай вайны, была прысвечана міжнародная канферэнцыя, якая праходзіла ў Чарнігаве ў канцы верасня. Сярод яе ўдзельнікаў -- вучоныя і грамадска-палітычныя дзеячы Германіі, ЗША, Венгрыі, Польшчы, Румыніі, Расіі, Славакіі, Эстоніі, Беларусі.

Юрыдычнай асновай для вяртання ўжо выяўленых нацыянальных каштоўнасцей з-за мяжы з'яўляецца прыняты ў 1992 годзе Закон Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны". Па палажэннях гэтага закона на канферэнцыі выступіў намеснік старшыні Дзяржінспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Васіль Чэрнік. Па звестках агенцтва РІД, удзельнікі сустрэчы прынялі зварот да ЮНЕСКА, у якім прапанавалі праграму сумесных мерапрыемстваў у гэтай галіне.

Антон СОКАЛ-КУТЫЛОЎСКІ

# МАЕ ЎСПАМІНЫ

## ПЕРШАЕ КАХАННЕ

Здарылася гэта за тры гады да першай сусветнай вайны 1914-1918 гг.

Праездам з Палесся ў Пецярбург мне спатрэбілася заехаць у горад Панявеж, дзе я раней вучыўся.

Прыехаў я ўначы, затрымаўся ў гасцініцы ў пакоі на другім паверсе. Прачнуўся на другі дзень позна, падышоў да вакна і быў здзіўлены адсутнасцю руху на вуліцы. Крамы зачынены, вокны завешаны тоўстымі шторамі. Хутка хто-небудзь прабяжыць па вуліцы, і зноў пуста.

Такое становішча ў горадзе мяне зацікавіла. Зышоў уніз, запытаў у намярнога, што ўсё гэта значыць, чаму горад выглядае вымершым? Намярны адказаў, што ў горадзе халера і нікому нельга выехаць адсюль, пакуль не будзе зняты каранцін. Нічога не зробіш, прыйшлося сядзець у гасцініцы. Працягваў назіраць з вакна за рухам на вуліцы. Час ад часу неслі на насілках памершага, пакрытага чорным сукном. Тыя, што неслі, мелі на тварах чорныя маскі.

Бачу: ідзе чалавек, раптам пахіснуўся, упаў на сходнік, пачаў корчыцца. Нікому да яго не было ніякай справы. Праз паўгадзіны хворы выпрастаўся і заціх. Відаць, памёр.

Праз нейкі час падышлі чатыры санітары ў чорных масках, забралі памершага і панеслі.

Вось, бачу, бяжыць па вуліцы дзяўчынка-падростак і наспраць гасцініцы падае на сходніку, хапаецца рукамі за жывот, качаецца па панелі. Праходзіць мінут дваццаць. Ніхто яе не забірае, а яна ўсё шавеліцца, значыць, жывая.

Не задумваючыся, што з гэтага будзе, збягаю ўніз, падыходжу да дзяўчынкі. У цяжкіх цярпеннях яна глядзіць на мяне і ціхенька просіць дапамагчы. А чым я магу дапамагчы? Стаю разгублены некалькі хвілін. Нарэшце нагінаюся, бяру яе на рукі і прыношу ў свой нумар гасцініцы, кладу на ложак. А што далей рабіць? Прыпамінаю, не так даўно чытаў кнігу, як адзін падарожнік лячыў свайго сябра ад халеры ў экватарыяльнай Афрыцы. Меў я льняны абрус дамашняга вырабу і пару прасціралаў, таксама льняных. Мачу ў вадзе прасціродла, лёгка выціскаю, здымаю з дзяўчынкі ўсё ўбранне, абкручваю мокрым прасціралам і кладу на канапу. Сам бягу ў аптэку, дастаю пахучага воцату. Націраю ім усё цела дзяўчынкі, асабліва жывот, ногі і рукі. Мачу абрус воцатам і цэлую гадзіну трымаю хворую абгорнутаю. Даю выпіць два разы на дзень па паўшклянкі моцнае, гарачае гарбаты, напалавіну змешанай з чырвоным салодкім вінаградным віном перагатаваным.

Так я правазіўся з хвораю два дні і дзве ночы, а на трэцюю ноч дзяўчынка заснула. Наступіў перапом. Пачалося выздараўленне, і, скажу, надзіва хуткае. На сёмы дзень я пайшоў з дзяўчынкаю да яе бацькоў. Аднак нас чакала страшэннае няшчасце. Дзверы і вокны дома, у якім жылі бацькі яе, былі забіты дошкамі, і на дзвярах напісана чорнаю фарбаю: "Халера".

Ад суседзяў мы даведаліся, што бацька і маці дзяўчынкі памерлі ад халеры, і нікога з сваякоў у горадзе не засталося.

Звалася дзяўчынка Ядвіга Кіркіла. Вучылася ў пятым класе жаночай гімназіі ў Панявежы. Мела чатырнаццаць з паловаю гадоў. Быў у яе адзін толькі старэйшы брат Эдуард, вучыўся ў Пецярбургу ў ваенна-медыцынскай акадэміі на другім курсе. Нічога мне болей не заставалася, як адвезці дзяўчынку ў Пецярбург да брата.

Пасля такой трагічнай смерці бацькоў Эдуард сам застаўся без усякіх сродкаў. Тут я прыйшоў на дапамогу. Вучыцца ў гімназіі яна не можа, таму я пачаў рыхтаваць яе прыватна, каб праз тры гады магла вытрымаць экзамены на вучыцельніцу. Падтрымліваў таксама яе і матэрыяльна.

Зразумела, аб усім напісаў сваім бацькам. Яны наказалі прывезці Ядвігу да іх, але там не было каму яе вучыць. Так увесь навучальны год засталася яна ў Пецярбургу. На летнія канікулы адвёз Ядвігу да сваіх бацькоў. Яе ўсе мае дамашнія хутка пакахалі і з вялікім жалем адпускалі ўвосень у Пецярбург. Да мяне яна ставілася як да свайго роднага брата.

Так на працягу трох гадоў я падрыхтаваў Ядвігу, і яна паспяхова вытрымала экзамены на вучыцельніцу пачатковай школы. Хутка атрымала пасаду настаўніцы ў г. Папангене (Літва), куды і паехала ўлетку 1914 года. Праз пару месяцаў я меў прыехаць у Папанген, забраць яе, вярнуцца да бацькоў і там справіць вяселле. Павінен сказаць, што ўжо даўно мы не толькі прывыклі адно да аднаго, але і пакахалі самым чыстым маладым каханнем.

Ядвіга к таму часу вырасла ў прыгожую дзяўчыну. Мае бацькі не маглі дачакацца, калі яна ўвойдзе ў дом як мая жонка. Аднак не гэтак сталася, як мы жадалі. Не суджана было мне ўзяць шлюб з Ядвігаю.

У 1914 годзе 19 ліпеня старога стылю, як вядома, пачалася вайна з немцамі. Хутка г. Папанген быў захоплены ворагам, і мая нявеста Ядвіга Кіркіла апынулася ў акупацыі. Я прызваны ў войска. Вайна нас разлучыла на многія гады. Толькі ў канцы 1919 года мне ўдалося прыехаць у Папанген. Ядвіга Кіркіла жыла там жа і працавала ў літоўскай школе настаўніцай. Сустрэла яна мяне і радасна, і трывожна. З вялікім жалем сказала, чаму я не прыехаў на паўгода раней, а цяпер яна ўжо дала сваю згоду выйсці замуж за другога. Праз тыдзень нават вызначаны дзень шлюбу. Яна была страшэнна разгублена, не ведала, што рабіць. Ці адказаць таму другому, ці мне адказаць. Я ж добра разумеў. Гэтулькі часу прайшло з дня нашай разлукі — амаль пяць гадоў. Дзяўчына не магла болей чакаць мяне і аддала сваё сэрца другому.

У той жа дзень я выехаў у Вільню, але ў часе развітання яна прасіла мяне хутка варочацца і прывезці абручальныя пярсцёнкі. Значыць, яна мне не адказала. Аднак я не захацеў адымаць у яе новага шчасця, напісаў ёй ліст, пажадаў дабра, а сам на цэлае жыццё захаваў сваё першае каханне да яе.

Так я выратаваў ад смерці, выгадаваў і вывучыў дзяўчыну і аддаў другому ў жонкі.

# АЖЫВАЕ ВЕРХНІ ГОРАД

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Побач з Траецкім прадмесцем -- Кафедральны сабор і Верхні горад. Пад імі -- лінія метро.

Тое, што ад Верхняга горада засталося хоць нешта -- маленькі цуд і перамога над камуністычным рэжымам. У 1988--1989 гадах у ЦК КПБ разглядалася пытанне аб зносе Верхняга горада. Па праекту будаўніцтва другой лініі мінскага метро Верхні горад павінен быў быць знесены таксама. А не зрабілі гэтага таму, што супраць выступіла грамадскасць. Сярод людзей, якія патрабавалі захаваць гістарычны цэнтр, тады былі З.Пазьняк, А.Трусаў. Група архітэктараў пад кіраўніцтвам С.Багласава і А.Грэчына фактычна на энтузіязме распрацавала канцэпцыю праекта рэстаўрацыі.

У будынках Верхняга горада жылі людзі аж да канца 80-х гадоў. Былі гэта, як правіла, карэнныя мінчукі. Як яны маглі месціцца ў памяшканнях манастыра, Дома масонаў пры пячным ацяпленні, дзе не было каналізацыі, водаправода, можна толькі здагадвацца. Жыхары Верхняга горада атрымалі жыллё за кошт дзяржавы.

Калі ж будынкі Верхняга горада апусцелі, то ператварыліся ў месца, дзе збіраліся падлеткі, да якіх не было справы бацькам, бадзягі. Гадоў 5 таму многія мінчукі чулі пра Дом масонаў як пра небяспечнае месца, куды ўпоцемкі лепш не трапляць. Хто знаходзіў прытулак у будынках Верхняга горада, а хто "па-гаспадарску" выкарыстоўваў для сваіх дач ягоныя падлогі. На ахову ў дзяржавы грошай не было. Так дожыўся некалькі гадоў.

У сярэднім на Беларусі рэстаўрацыя помніка архітэктуры ішла 10--15 гадоў, бо з тых мізэрных сродкаў, што даставаліся культуры, на рэстаўрацыю прыпадалі капейкі са сродкаў капітальнага рамонту.

У 1991 годзе было створана Упраўленне па рэстаўрацыі пры Савеце Міністраў. Гэта была бюджэтная арганізацыя. У тыя часы ўжо расла інфляцыя, грошай не хапала. І рашэнне рэстаўрыраваць Верхні горад засталося толькі на паперы.

Амаль усе будынкі Верхняга горада павінны былі стаць культурнымі ўстановамі. Разлічваць на бюджэт дзяржавы -- гэта значыць апынуцца ў тупіковым становішчы. Рэстаўрацыя пачалася. Яе вядзе акцыянернае таварыства "Стары Мінск". З ягоным генеральным дырэктарам Мікалаем Вадап'янавым я сустрэлася. Ён вёў мяне па Верхняму гораду, паказваў на амаль разбураны будынак, ад якога засталася адна сцяна, і казаў: "Гэта тэатр. У канцы надыходзячага года ён будзе працаваць. Не верыце? Убачыце. Тут яшчэ ў студзені былі руіны. А гэта Дом масонаў -- будучы музей гісторыі тэатральнага мастацтва".

II

-- Рэстаўрацыя ідзе. Як вам удалося знайсці для яе сродкі?

-- Калі я яшчэ працаваў у Галоўным упраўленні па рэстаўрацыі, нашай асноўнай задачай было стварыць умовы для прыцягнення пазабюджэтных сродкаў для рэстаўрацыі гістарычнага цэнтра горада. Не атрымалася. Праца пайшла, калі было створана акцыянернае таварыства, якое з'яўляецца заказчыкам рэстаўрацыйных работ. Сродкі мы атрымліваем ад фірм, якія пасля заканчэння рэстаўрацыі будуць бясплатна карыстацца часткай будынкаў на правах арэнды.

-- Гэта значыць, што будынкі не становяцца іхнія ўласнасцю?

-- Так. Ва ўсім свеце гістарычныя аб'екты знаходзяцца ў муніцыпальнай уласнасці. Імі карыстаюцца на ўмовах доўгатэрміновай арэнды ці іншых. Горад пакідае за сабой права ўласнасці. А права ўнутранага распараджэння знаходзіцца ў акцыянернага таварыства. Гэтага стала дастаткова, каб людзі захацелі укладваць сродкі ў рэстаўрацыю.

-- Скажыце, калі ласка, на які тэрмін акцыянернае таварыства атрымала будынкі ў карыстанне?

-- На 49 гадоў.

-- Якія ўстановы размесцяцца ў будынках Верхняга горада пасля рэстаўрацыі?

-- Большасць збудаванняў будуць выкарыстоўвацца пад культурныя ўстановы. Пачне працаваць музычная школа, аддзел рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі, Дом-музей Ваньковіча, музей гісторыі тэатральнага мастацтва, тэатр Старога горада. Тут размесцяцца гатэль, рэстаран, офісы.

-- Я разумею, што можна было знайсці грошы для рэстаўрацыі будынка, дзе размесціцца гатэль. Але хто згадзіўся інвесціраваць аб'екты культуры, якія наўрад ці прынясуць прыбытак?

-- Рэстаўрацыя музычнай школы вядзецца за кошт дзяржаўных сродкаў. Укладваць грошы ў аб'екты культуры сапраўды не шмат жадаючых. Аднак мы знайшлі выйсце -- абкалалі своеасаблівай данінай тых, хто фінансуе рэстаўрацыю іншых аб'ектаў. Частку сродкаў яны ўкладваюць у музей, у аддзел рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі. Такія нашы ўмовы. І людзі згаджаюцца.

Ведаеце, я лічу, што сёння неабходна стварыць парытэт камерцыі і культуры. Трэба шукаць выйсце з эканамічнага крызісу. Мы так прызвычаіліся, што культура беспрыбытковая, што і не спрабуем знайсці змяніць. У Верхнім горадзе мы хочам па-новаму падысці да справы. Мы рэстаўрыруем тэатр. Вядома, што памяшканні тэатраў значную частку сутак пустуюць. А чаму б удзень, калі няма рэпетыцый, не праводзіць там пасяджэнні, канферэнцыі. Сцэна тэатра можа стаць шматпрофільнай. Там будуць праходзіць прэзентацыі, прэс-канферэнцыі. Фае тэатра стане выставачнай залай. Ноччу будзе працаваць казіно. У рэшце рэшт утрыманне тэатра не будзе стратным.

III

Да дзейнасці акцыянернага таварыства "Стары Мінск" людзі ставяцца па-рознаму. Адны ўпэўнены, што Верхні горад прададзены іншаземцам. Прадажу, як высветлілася, няма. А сярод інвестараў -- толькі айчынныя фірмы.

Другія спрачаюцца з канцэпцыяй рэстаўрацыі. Зноў жа чамусьці цяпер, калі праца ўжо ідзе, а ў Мінску так шмат іншых куткоў, што патрабуюць рэстаўрацыі, за якія ніхто не бярэцца.

А пакуль у Верхнім горадзе зроблена нямала. Адрэстаўрыраваны будынак манастыра. Пабелены сцены і столі, пафарбаваны дзверы і аконныя рамы. Дзіўна гэта -- музычная школа ў манастыры, інструменты -- у келлях манахаў.

Вядуцца працы ў Доме масонаў, у іншых будынках. Яны патроху ажываюць.

Алена СПАСЮК.





НА ЗДЫМКАХ: ідзе рэстаўрацыя Верхняга горада.

Фота Віктара СТАВЕРА.

193

## 23.3. Звяржэнне царызму

**РЭВАЛЮЦЫЙНЫЯ ПАДЗЕІ Ў ПЕТРАГРАДЗЕ.** Лютаўская рэвалюцыя 1917 года, што скінула з прастола апошняга расійскага самадзержца Мікалая II, выбухнула нечакана для ўсіх палітычных партый. 22 лютага цар ад'язджаў з Петраграда ў Стаўку пад Магілёвам у якасці галоўнакамандуючага рускай арміі, а праз два тыдні вярнуўся ў сталіцу пад арыштам звычайным "палкоўнікам Раманавым".

Рэвалюцыйны пераварот быў гістарычна непазбежным. Ён пачаўся з выступленняў рабочых у Петраградзе. Царская кліка так самаізалявала сябе, што дастаткова было 23 лютага выйсці на вуліцы горада галодным жанчынам-работніцам, каб потым да іх далучыўся ўвесь працоўны люд сталіцы і вайскоўцы петраградскага гарнізона. Ні адно буйное вайсковае злучэнне, ні адна палітычная партыя не сталі на абарону Мікалая II. 27 лютага Петраград ужо быў у руках паўстанцаў. На бок рэвалюцыі стала і Дзяржаўная дума. Яе дэпутацыя ў складзе А.Гучкова і В.Шульгіна сустрэлася з імператарам на станцыі Дно пад Псковам. Там Мікалай II і ўручыў прадстаўнікам Думы маніфест аб адмове ад прастола на карысць свайго брата Міхаіла Аляксандравіча, але той імператарскую карону прыняць пабаяўся.

**ЛІКВІДАЦЫЯ ЦАРСКАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ НА БЕЛАРУСІ.** У лічаныя дні царская адміністрацыя была знішчана па ўсёй краіне. Рэвалюцыя ў Беларусі разгортвалася па агульна-

194

расійскаму сцэнарыю. Тэлеграфныя весткі аб падзеях у Петраградзе выклікалі ўсеагульную радасць. Ва ўсіх буйных гарадах прайшлі мітынгі і дэманстрацыі ў падтрымку Часовага ўрада. Функцыю разбурэння і вынішчэння старых парадкаў узялі на сябе Саветы рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, якія ствараліся на Беларусі ўпершыню. Яны ж выступалі абаронцамі сацыяльных правоў працоўных. Разбройваліся паліцыя і жандары, вызваляліся палітычныя вязні, стваралася народная міліцыя. Рэвалюцыйныя перамены дасягалі і вёсак. Сяляне праганялі ўраднікаў і земскіх начальнікаў, перавыбіралі валасных старшынь. У асобных мясцінах Магілёўскай губерні рабаваліся панскія маёнткі.

Стварэннем новай адміністрацыі, падпарадкаванай Часоваму ўраду Расіі, займаліся Грамадскія камітэты парадку. Яны фарміраваліся з дзеячаў былых земскіх і гарадскіх упраў, а таксама прадстаўнікоў ад Саветаў. Кіраўніцтва камітэтамі парадку паступова перайшло да губернскіх і павятовых камісараў, якія назначаліся з ліку мясцовых ураднікаў ад імя Часовага ўрада. Мясцовыя Саветы звычайна падпарадкоўваліся новаму кіраўніцтву і новаму ўраду ў Петраградзе.

300-гадовае самаўладдзе Раманавых, якое амаль паўтара стагоддзя трымала ў няволі і беларускі народ, -- рухнула.

**КАРОТКІ АГЛЯД ВЫНІКАЎ ЦАРСКАГА ПАНАВАННЯ.** Царскія заваёўнікі заўсёды зна-

195

ходзіліся на Беларусі ў цяжкім становішчы. Яны прыйшлі сюды як вызваліцелі "рускага" праваслаўнага народа з-пад польскага каталіцкага гнёту. Аднак гэтая "абарона" прыводзіла да парушэння векавых прывілей каталіцкай шляхты, што дазволіць сабе дваранская Расія не магла. Не магла яна і адкрыта падтрымаць мясцовых паноў, бо гэта азначала б адмаўленне ад яе дэмагагічнай палітыкі праваслаўя і рускай народнасці. Таму ўся гісторыя царызму на Беларусі -- гэта палітыка непаслядоўнасці і ваганняў. Робячы стаўку на дваранства, расійскі ўрад узмацняў сваіх ворагаў, даваў ім магчымасць арганізавацца для чарговага антыцарскага выступлення. Вешаючы паноў, рускі цар узбуджаў сялянства, абвастраў іх злосць да багацеяў, спрыяў распаўсюджванню рэвалюцыйных ідэй. Расійскі царызм так і не знайшоў тут сабе надзейнай падтрымкі. Ён пакінуў пасля сябе толькі непрымірымую варожасць паміж беларускімі панамі, якіх падштурхоўвалі да польскасці, і беларускімі сялянамі, якіх прыцягвалі да рускасці па рэлігійнай адзнацы.

Паўтара стагоддзя так і не хапіла царызму, каб упэўніцца ў адметнасці і самабытнасці беларускага народа. Але і падцягнуць беларусаў пад агульнарускі ранжыр яму не ўдалося. Як ні старалася рускае самаўладдзе вынішчаць беларускую нацыянальна свядомую эліту (згадаем 1863 і 1905 гады), беларускі рух не спыняўся. А з канца XIX стагоддзя ён ужо набыў устойлівую тэндэнцыю да нарастання і актыўна ўплываў на вырашэнне лёсу пасляцарскай Расіі.

196

## 24. БАРАЦЬБА ЗА ЎЗНАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

**(сакавік 1917-га — сакавік 1918-га года)**

Вайна паказвала поўнае банкруцтва і нежыццёвасць рускай імперскай дзяржаўнай мадэлі. Яна не магла забяспечыць ні эканамічнай, ні ваеннай, ні палітычнай стабільнасці расійскай шматэтнічнай супольнасці. Для выхаду з крызісу патрабавалася знішчэнне не толькі самаўладдзя, але і імперыі. Аўстра-Венгерская імперыя рухнула. А як Расійская?

### 24.1. Першыя крокі

**СВОЕАСАБЛІВАСЦЬ ПАЛІТЫЧНАГА СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСІ.** Звяржэнне царызму давала беларусам, як і іншым прыгнечаным народам Расіі, надзею на нацыянальнае вызваленне і спрыяла кансалідацыі іх сіл. Але вайна ператварыла ўсходнюю Беларусь у стаянку 2-мільённай расійскай арміі. Асноўная маса яе і не ведала, што займае беларускія землі. Рускі салдат успрымаў Мінскую, Віцебскую, Магілёўскую губерні толькі як часткі Расіі. Ён

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

197

быў далёкі ад мясцовых інтарэсаў. Прыфрантавое становішча Беларусі прыводзіла да таго, што падзеі тут разгортваліся ў двух накірунках -- нацыянальным і агульнарасійскім.

**УЗНАЎЛЕННЕ ДЗЕЙНАСЦІ БСГ.** Пад уплывам рэвалюцыйных падзей арганізацыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады ствараліся ў розных мясцінах Беларусі і Расіі (бежанцамі). 26 сакавіка ў Мінску адбыўся з'езд БСГ, дзе абгаворваўся бягучы момант. Было ўхвалена скліканне другога з'езда для прыняцця праграмы партыі. У Мінску пачаў выходзіць цэнтральны орган БСГ пад назваю "Гоман". Вылучаліся сваім уплывам мінская і петраградская арганізацыі грамадаўцаў. Мясцовая прымала ліберальна-дэмакратычную афарбоўку, сталічная хілілася да бальшавізму.

**I З'ЕЗД БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ.** 25--26 сакавіка ў Мінску адначасова са з'ездам БСГ пачаўся і з'езд прадстаўнікоў беларускіх арганізацый і партый. Сабралася каля 150 дэлегатаў. Яны стварылі Беларускі Нацыянальны Камітэт і надалі яму ролю вышэйшай краёвай установы. Старшынёй Белнацкама стаў буйны пінскі землеўладальнік, былы краёвец і былы член Дзяржаўнай думы Раман Скірмунт. Яго абралі на гэту пасаду пры ўмове, што ён адмовіцца ад свайго маёнтка. У склад камітэта ўвайшлі таксама аграном А.Смоліч, юрысты П.Аляксюк і Л.Заяц, публіцыст З.Будзько, чыноўнік Лібава-Роменскай чыгункі В.Фальскі, кандыдат філалогіі Б.Тарашкевіч, ксёндз Гадлеўскі, упаўнаважаны ад Часовага ўрада па арганізацыі кааператываў у Мінскай губерні

198

Е.Канчар, упаўнаважаны Саюза гарадоў Паўднёва-Заходняга фронту І.Краскоўскі, банкаўскі служачы А.Бурбіс, пісьменнік К.Каставіцкі, настаўнік гімназіі Бабарыкін, прыватны адвакат Ф.Шантыр, рэдактар "Могилевского Вестника" М.Кахановіч, інжынер В.Іваноўскі, архітэктар Л.Дубейкоўскі, паэт З.Жылуновіч -- усяго 18 асоб. Грамадаўцы атрымалі ў камітэце толькі 6 месцаў, а таму істотнага ўплыву на яго працу не мелі.

**НА ПАКЛОН ДА КЕРАНСКАГА.** З'езд выпрацаваў дэкларацыю да Часовага ўрада з вельмі памяркоўнымі патрабаваннямі -- беларускіх школ і аўтаноміі Беларусі. Дэлегацыя ў складзе Краскоўскага, Скірмунта, Будзько, Канчара, Кахановіча і народнага настаўніка І.Касяка вазіла яе ў Петраград. Але пасланнікі Беларусі марна патрацілі час. Кабінет А.Керанскага ніяк не мог развітацца з імперскай ідэяй. Новыя ўлады нават рэспублікай краіну аб'явілі толькі 1 верасня. Беларусы не атрымалі не толькі аўтаноміі, але і элементарнага права на арганізацыю зямляцтваў у войску.

**ХАРАКТАР БЕЛАРУСКАГА РУХУ.** З беларускім рухам можна было не лічыцца. Ён распыляўся па ўсёй краіне ды яшчэ дзяліўся на розныя палітычныя кірункі. У Маскве арганізавалася Беларуская Народная Грамада на чале з Алесем Цвікевічам. Яна мела агульнадэмакратычную праграму і патрабавала аўтаноміі Беларусі. На нацыянальна свядомых пазіцыях стаяла і шмат іншых аб'яднанняў беларусаў, якіх вайна раскідала па розных кутках расійскай прасторы. На Беларусі ж часам пад беларускай

199

шыльдай выступалі абаронцы заходнерусізму ды і былыя чарнасоценцы, якія ад імя беларусаў упарта праводзілі лозунг "адзінай і непадзельнай". У Магілёве склаўся Беларускі Нацыянальны Камітэт прарускай арыентацыі. У Гомелі працаваў Саюз Беларускай Дэмакратыі, у якім большасць складалі эвакуіраваныя з Вільні русіфікатары-чыноўнікі Віленскай вучэбнай акругі. Зусім чарнасоценскім быў Саюз Беларускага Народу ў Віцебску. Усе яны варожа ставіліся да БСГ і вялі з ёю безупынную палеміку ў прэсе і на мітынгах. Тое каталіцкае духавенства, што ў маі аб'ядналася ў партыю Каталіцкай Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці Беларусаў, таксама не заўсёды знаходзіла паразуменне з грамадаўцамі. Праўда, беларускія арганізацыі і партыі стараліся мець сувязь з Белнацкамам, прызнавалі Мінск цэнтрам Беларусі, і гэта аб'ядноўвала іх.

Беларускі Нацыянальны Камітэт меў даволі ліберальны накірунак. Мінскія дзеячы займалі падкрэслена прарускую арыентацыю, займаліся пераважна навукова-асветнымі справамі і нічога не абяцалі сялянам да склікання Краёвай Беларускай Рады (Савета). Такая памяркоўнасць не задавальняла беларускіх нацыянал-радыкалаў.

**ДЗЕЙНАСЦЬ РАСІЙСКІХ ПАРТЫЙ.** Палітычная ініцыятыва ў краі належала расійскім партыям, і ў першую чаргу эсэрам і меншавікам, якія панавалі ў мясцовых Саветах ды і ў Камітэтах парадку. Супраць беларускага адраджэння адзінадушна выступалі ўсе расійскія вялікадзяржаўнікі -- пачынаючы ад бы-

200

лых чарнасоценцаў і канчаючы бальшавікамі. Каб прынізіць беларускі рух у вачах мясцовага сялянства, яны ўмела выкарыстоўвалі тую акалічнасць, што Белнацкам узначальваў буйны землеўладальнік Скірмунт. Так, у красавіку на І з'ездзе сялянскіх дэпутатаў Мінскай губерні бальшавікі прыпынілі разгляд беларускага пытання, аб'явіўшы яго польскай панскай інтрыгай. Нацыянальныя дзеячы абвінавачваліся ў імкненні аддзяліцца ад Расіі і перадаць беларускіх сялян у рабства польскім панам. І сялянскія дэпутаты крычалі "прэч" кожнаму інтэлігенту, які гаварыў па-беларуску, ды рвалі кніжкі, напісаныя на іх роднай мове. І гэта ў той час, калі "нацыяналістычны" Белнацкам аб'яўляў, што будзе лічыць правакатарам кожнага, хто пачне прапаганду саюза з Польшчай. Шмат шкодзілі тады беларускай справе і многія народныя настаўнікі, атручаныя духам цэнтралізму і прывучаныя да рабскай пакорлівасці Петраграду.

Тады ж, у красавіку, прайшоў самы прадстаўнічы з'езд рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняга фронту і тылу. Так тады называўся абшар з Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў (Беларусі як бы не існавала). І тут у абраны дэлегатамі Выканаўчы Камітэт Заходняга фронту і тылу трапілі пераважна меншавікі і эсэры. Іх уплыў ва ўсходняй Беларусі закладваўся яшчэ ў часы рэвалюцыі 1905 года. Сярод эсэраў было шмат беларусаў. Але пастулова актывізуецца і бальшавіцкая партыя. Ніхто так гучна, як яна, не абяцаў змучанаму вайной народу міру, зямлі, гаспадарання на прадпрыемствах, права на нацыянальнае самавызначэнне.

# УСЕ МАЕ СНЫ БЫЛІ БЕЛАРУСКІЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

І ўсё ж мой народ для мяне -- Бог, таму што другога беларускага народа на зямлі няма. Толькі, як і кожнаму з нас, мне вельмі хочацца, каб ён быў усё лепшы.

*-- І разумнейшы...*

-- І разумнейшы. Аднак чалавек -- жывы і іконай быць не можа. І народ -- жывы і жыве ў канкрэтных гістарычных і эканамічных умовах.

Калі я ўсё гэта зразумеў і ўсвядоміў, не менш, а нават больш стала дарагой мне мая Радзіма.

У бытавым сэнсе маё жыццё ў Амерыцы было лягчэйшым: як я ўжо гаварыў, я меў аўтарытэтную пасаду, так што ў мяне быццам бы не магло быць невясёлых пачуццяў. А вось тое, што мне не хапала зямлі маёй, сяброў маіх, дзяцей маіх, не хапала маёй Беларусі, гэта было вельмі і вельмі адчувальным. Згадаю дзве "дэталі". Колькі я там жыў, мне ні разу не прыснілася нічога амерыканскага. Усе мае сны былі беларускія. Між іншым, і цяпер, калі я ўжо больш паўгода дома, сны пра Амерыку мне не сняцца. І другое, зноў жа, відаць, з псіхалогіі, але факт -- вершы мне там не пісаліся.

*-- Я якраз хацела ў вас спытаць, дзе напісаліся гэтыя вершы, пра якія мы сёння гаворым.*

-- Вершы задумваліся там, абуджаліся пачуцці, нараджаліся думкі, а вось цалкам не напісаўся ніводзін верш. Мне там не пісалася, хаця не скажу, каб у мяне не было для гэтага часу. Думаю, гэта сведчанне таго, што мы, жывучы дома, не маем рэальнага ўяўлення аб жыцці за мяжой. Таму я дзіўлюся тым, хто бяздумна, нават апантана рвецца з Радзімы. Безумоўна, у Амерыцы, як у кожнай багатай краіне, ёсць даброты матэрыяльныя, але той, хто пакідае Бацькаўшчыну, духоўна няшчасны чалавек, калі ён сур'ёзны і шчыры. Свет Радзімы -- гэта тое, пра што мы амаль ніколі не задумваем, але ён ёсць, і ён дома, сярод сваіх. Там жа, за акіянам, людзі з іншымі прывычкамі, традыцыямі, законамі. Я не кажу, што тыя людзі дрэнныя, проста яны жывуць па-іншаму. Можа, маладыя прасцей урастаюць у новае жыццё, у непрывычную псіхалогію, але не веру, што ім там будзе вельмі добра. Пацвярджэннем таму -- нашы эмігранты, якія ўсе душой плачуць па Беларусі.

*-- Асабліва цяжкае, мусіць, тое жыццё для людзей творчых!*

-- Пра творчых я ўжо і не кажу. Кажу пра "звычайных" нашых эмігрантаў.

*-- Маючы іх на ўвазе, я і сказала, калі мы з вамі дамаўляліся аб сустрэчы, што вашы вершы знойдуць водгук у сэрцах замежных беларусаў. А вы адказалі: "Не ва ўсіх".*

-- Не ва ўсіх, канешне.

*-- А што вы мелі на ўвазе?*

-- Я хацеў сказаць, што некаторыя эмігранты трэцяга пакалення настолькі амерыканізаваліся, што ўжо не маюць таго глыбіннага, што ёсць у нас. Ну і потым не варта забываць, што сярод эмігрантаў няма поўнага адзінства лёсаў, прывычак, проста жыццёвых сітуацый. Ёсць там, безумоўна, і тыя, хто адчувае пэўную віну перад Радзімай.

*-- Але ў нас цяпер стараюцца гэтых вінаватых не заўважаць. Усе за мяжой*



*патрыёты або, у крайнім выпадку, пакрыўджаныя...*

-- Гэта наша старая хвароба: то ўсіх абсалютна запісвалі ў ворагі і бэсцілі, як маглі, то ўсіх без разбору запісваем у сябры і захвальнікі нашай мовы і традыцый. А ўсё на самай справе не так адназначна, як нам здаецца, а можа тамусяму і хочацца. Аднак у большасці эміграантаў, шчырых беларусаў, якія, як маглі, служылі Беларусі, думаю, вершы мае знойдуць водгук.

*-- Пра замежных землякоў вы пішаце: "Звязала мова ім Набыткі І сцежкі ўсе ў клубку гадоў, Як тая суравая нітка, Што лучыць з кроснамі дзядоў". У гэтым вершы, мне здаецца, я адчуваю ваш боль за нашу пакрыўджаную мову, якая быццам бы пачынала адраджацца, а цяпер яе зноў забываюць, не паспеўшы, як след, успомніць. У замежных беларусаў яна, мусіць, у большай пашане, чым у тутэйшых. І большасць суайчыннікаў там валодаюць роднай мовай.*

-- І не толькі яны, але і іх дзеці. Родная мова для іх -- своеасаблівы пароль агульнасці. Яна больш, чым сродак зносін, яна псіхалагічная з'ява, якую беларусы, жывучы тут, не адчуваюць. У абсалютна чужым моўным асяроддзі роднасць паміж людзьмі найперш і яскравей за ўсё адчуваецца праз мову. Мова там як своеасаблівая клятва нечаму дарагому. Яна аб'ядноўвае людзей адной веры, адной зямлі, адной сям'і. Я сустракаў маладых людзей з апошняй хвалі эміграцыі, якія тут не гаварылі па-беларуску, а ў Амерыцы пачалі гаварыць на роднай мове, хай сабе спачатку і няўмела, бо захаванне сваёй адметнасці -- натуральная з'ява. Яны ўбачылі, як да сваёй мовы ставяцца кітайцы, французы, іспанцы -- і ім таксама не захацелася быць манкуртамі.

А тут, "у нас", як вы кажаце... Праблема з беларускай мовай вельмі і вельмі цяжкая, часам палітычна спекулятыўная. Мяне больш за ўсё трывожыць і нават злуе тое, што праблему гэтую настырна

## ІНТЭРВ'Ю НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ

# ЕЎРОПЕ ПАТРЭБНА ЎСЯ ЕЎРОПА

*У Мінску прайшоў семінар "Культурная палітыка і еўрапейскае культурнае супрацоўніцтва".*

*Яго ладзілі Савет Еўропы і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Напярэдадні падзеі наш карэспандэнт сустрэлася з намеснікам міністра культуры і друку Уладзімірам РЫЛАТКАМ.*

**-- Уладзімір Пятровіч, калі і як узнікла ідэя правесці такі семінар!**

-- Летась Беларусь падпісала Еўрапейскую канвенцыю па культуры. Тады ж былі распрацаваны план супрацоўніцтва Савета Еўропы і Беларусі, у які і ўваходзіла правядзенне семінара.

**-- Якая мэта семінара!**

-- Хацелася б, каб на ім была выпрацавана канцэпцыя ўзбагачэння кантактаў Беларусі з Саветам Еўропы, павелічэння ролі нашай краіны ў рэалізацыі агульнаеўрапейскіх праграм культурнага супрацоўніцтва. Неабходна распрацаваць пытанні культурных абменаў, гуманізацыі ўсіх бакоў грамадскага жыцця.

Вельмі важна прыцягнуць увагу Савета Еўропы да найбольш поўнага выкарыстання навукова-творчага, культурнага патэнцыялу нашай рэспублікі. Сам працэс далучэння да праграм Савета Еўропы даволі складаны, бо падрыхтоўка кожнай з іх вядзецца на працягу некалькіх гадоў. Мы падключаемся да іх на хаду. Таму правядзенне семінара ў з запрашэннем высокіх прадстаўнікоў Савета Еўропы можа быць вельмі карысным для Беларусі.

**-- Хто прадстаўляе Савет Еўропы на семінары "Культурная палітыка і еўрапейскае культурнае супрацоўніцтва"!**

-- Узначальвае дэлегацыю спадар Габрыэль Маза. Ён начальнік аддзела культурнай палітыкі і дзейнасці Дырэкцыі адукацыі, культуры і спорту Савета Еўропы. З ім прыехалі спадар Эдуард Дэльгада -- эксперт-кансультант з Іспаніі, Стыў Осцін -- эксперт Савета Еўропы (Галандыя), Юдзіт Кларк -- незалежны мастацкі кансультант, эксперт Савета Еўропы з Англіі, Жан-П'ер Саез -- намеснік дырэктара "Абсерваторыі культурнай палітыкі" (Францыя). Такое прадстаўніцтва Савета Еўропы, на маю думку, абяцае цікавую гаворку і сур'ёзны падыход да разгляду праблем культуры Беларусі.

**-- Хто будзе прымаць удзел у семінары з беларускага боку!**

-- Удзельнічаць у семінары згадзіліся навукоўцы з усіх буйных інстытутаў Беларусі, дзеячы мастацтва, прадстаўнікі творчых калектываў, і не толькі з дзяржаўных структур. Вядома, што ўвесь час культурныя каштоўнасці на Беларусі ствараліся пад кантролем дзяржавы. Яна была галоўным суб'ектам культуры. Сёння еўрапейскіх экспертаў цікавяць новыя суб'екты культуры. З імі яны звязваюць надзею на дэмакратызацыю культурнага жыцця на Беларусі. Сярод недзяржаўных суб'ектаў культуры, што будуць удзельнічаць у семінары, -- Альтэрнатыўны тэатр, яго спонсары, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, якія маюць дачыненне да культуры.

**-- Уладзімір Пятровіч, навошта, на вашу думку, Беларусь са сваімі складанасцямі патрэбна Еўропе!**

-- Што значыць "навошта патрэбна"? Мы ж з вамі жывем і заўсёды жылі ў Еўропе. Можна думаць, што ў Еўропе не патрэбна наша прадукцыя: там перанасычаны рынак. Але духоўны патэнцыял Беларусі напэўна патрэбны ў Еўропе. Нездарма ж нашы тэатральныя, музычныя калектывы запрашаюць на гастролі, цікавяцца працамі нашых мастакоў. Сёлета былі на гастролях у Іспаніі (ён і цяпер там выступае) тэатр оперы і балета. Хаця іспанскі глядач бачыў шмат сусветна вядомых калектываў, наша опера і балет былі ацэнены там вельмі высока. Я ўпэўнены, што гэта не выпадкова, а звязана з высокім узроўнем нашага мастацтва. Так што, я думаю, Еўропе патрэбна ўся Еўропа. З яе немагчыма выкрасліць нейкую краіну.

Алена СПАСЮК.



**Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь віцябчанін Іван Серыкаў сёлета адзначыў 75-годдзе.**

**Сваё жыццё педагог, балетмайстар Іван Арцёмавіч прысвяціў харэаграфіі. 26 гадоў кіраваў ён ансамблем "Маладосць". У свае 75, з якіх 55 аддадзены танцам, Іван Арцёмавіч малады, бадзёры, поўны здароўя і энергіі. І цяпер ён верны абранаму шляху -- кіруе ансамблем "Вытокі" пры абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці.**

**НА ЗДЫМКУ: І. СЕРЫКАЎ прымае віншаванні з нагоды юбілею.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

# З КАГОРТЫ ПАБРАЦІМАЎ

зямлі беларускай і вядомы украінскі паэт, перакладчык, а да ўсяго грамадскі дзеяч Мікола Бажан. Нарадзіўся Мікалай Платонавіч 9 кастрычніка 1904 года ў горадзе Камянец-Падольскі. Памёр 23 лістапада 1983 года. Усё жыццё падтрымліваў сувязі з Беларуссю, наведваўся да нас, меў нямала добрых сяброў сярод беларускіх пісьменнікаў. М.Бажан пераклаў на украінскую мову вершы Я.Купалы, кнігу П.Броўкі "Выбранае", вершы А.Куляшова, М.Танка, П.Панчанкі, А.Зарыцкага... З'яўляецца аўтарам артыкула "Слова пра беларускіх сяброў", прадмовы да зборніка М.Танка "Выбранае". Выступіў з артыкулам у сувязі з выхадам першага тома Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

З 1958 года М.Бажан працаваў галоўным рэдактарам Украінскай Савецкай Энцыклапедыі. Дзякуючы яму, на старонках гэтага аўтарытэтнага выдання шырока прадстаўлены матэрыял, што тычыцца шматграннага жыцця Беларусі, сувязей двух нашых народаў.

На беларускай мове выйшлі кнігі М.Бажана "Бяссмерце", "Выбраныя творы". Часта яго творы публікаваліся ў рэспубліканскай перыёдыцы. Шырока прадстаўлена творчасць М.Бажана і ў анталогіі "Украінская савецкая паэзія". Яго перакладалі П.Броўка, А.Бялевіч, В.Вітка, П.Глебка, А.Зарыцкі, М.Калачынскі, А.Куляшоў, М.Танк і іншыя.

ўзнімаюць людзі, якія як след не валодаюць ні рускай, ні беларускай мовай. А калі чалавек толкам не гаворыць ні па-руску, ні па-беларуску і пачынае судзіць, што беларуская мова такая-сякая "мужыцкая", а руская -- "это да" і сваю недасведчанасць выдаюць за інтэрнацыяналізм, мяне гэта проста шакіруе. Даруйце, але недасведчаны, дурны чалавек не можа быць інтэрнацыяналістам.

Вы толькі паглядзіце, у якіх эканамічных пакутах б'ецца наша рэспубліка, як цяжка таму ж Лукашэнку, які прыйшоў да разбітага карыта. А што робяць розныя "саборы", "рухі", "саюзы"? Зацята таўкуцца практычна вакол адной праблемы -- двухмоўя. Што -- гэта цяпер самая вострая праблема для краіны, найпершая праблема для народа? Будзем усё называць сваімі словамі -- не думаюць яны пра гэты народ, дбаюць пра асабістыя амбіцыі імперскія, шавіністычныя, хочуць вярнуцца ў Расійскую імперыю. А дэмакратычнай Расіі гэтыя дзеячы, дарэчы, не патрэбны. Калі б сапраўдныя рускія інтэлігенты даведаліся, хто тут у нас прадстаўляе іх і вялікі рускі народ, яны б жахнуліся.

Самае ж неверагоднае, што ў кампанію за невыкананне, ігнараванне Закона аб мовах уключыліся некаторыя дэпутаты Вярхоўнага Савета рэспублікі. Дык мне хочацца сказаць ім: будзьце сумленнымі, прызнайце, што вы не ўпісваецеся ў палітычную сітуацыю, зніміце з сябе паўнамоцтвы, станавіцеся радавымі грамадзянамі і ў такой якасці вядзіце сваю прапаганду. А то вы ж быццам бы прадстаўляеце народ і адначасова зневажаеце яго мову, сімвалы...

Такое мяне вельмі здзівіла, бо падобнага не можа быць ні ў якой дзяржаве.

*-- Вы, Генадзь Мікалаевіч, доўга не былі на Радзіме, і яна вас засмуціла. "Не пазнаць родны край, Дзе знаёмыя сцежкі і нівы. Дзе аздобіла вокны Налічнікаў тонкая вязь... Колькі ж можна цярпець? Колькі можна ўсміхацца, Калі цябе топчуць у гразь?" Што вам асабліва не спадабалася і што асабліва занепакоіла?*

-- Засмуціла тое, што з цягам часу робіцца не лепш, а ўсё горш і горш. Я разумею: цяжкасці, але павінен быць нейкі прасвет, паляпшэнне -- ці то ў матэрыяльным, ці то ў духоўным, ці то ў эканамічным сэнсе. Пагаршэнне, на жаль, ва ўсім. Людзі становяцца злоснымі і хціўымі. Можаш урваць -- урві, і не бяда, што ўрываеш у сабе падобнага. Маладыя людзі трацяць сілы на тое, каб працягваць зробленае іншымі замест таго, каб штосьці рабіць самім, замест таго, каб набываць веды. Усё гэта адмоўна ўплывае на здароўе нацыі. Беларусь -- рэспубліка, што можа сцвердзіць сябе ў свеце не нафтай, не алмазамі, а інтэлектам, працавітасцю. Дзіўлюся, што на гэта не звяртаюць увагі многія дзяржаўныя мужы.

*-- Скажыце, калі ласка, якія, на вашу думку, перспектывы ў беларускамоўнай прэсы? Ці ёсць небяспека, што большасць выданняў перастане існаваць, бо іх перастане фінансаваць дзяржава?*

-- Спадзяюся, што беларускамоўная прэса не знікне, бо калі такое здарыцца, то знікне беларуская дзяржава -- суверэнная, самастойная. А што лепш быць незалежнымі, чым слугой у некага, тым больш у дзяржавы, якая сама мае праблем па вушы, з цягам часу разумеюць нават тыя, хто не вельмі ўсведамляе, што такое суверэнітэт.

*-- Генадзь Мікалаевіч, калі дазволіце, да вас такое напаўпрыватнае пытанне. У апошні час даводзілася чуць меркаванне, што "Голас Радзімы" нічым не адрозніваецца ад любой іншай беларускай газеты, і таму незразумела, чаму менавіта яна ідзе за мяжу. Як чалавек, які бачыў і чытаў яе за мяжой, скажыце, калі ласка, ці папулярная і патрэбная наша газета там?*

-- Патрэбная. У свой час "Голас Радзімы" быў адзіным каналам інфармацыі з Беларусі для нашых землякоў. Адзіным, бо вельмі цяжка было атрымаць весткі адсюль. Якая гэта была інфармацыя -- іншая справа, але газета была каналам адзіным, да якога прывыклі і які паважаюць. Цяпер каналаў стала болей. Можна выпісаць "ЛіМ" або часопіс атрымаць, але ў "Голасу Радзімы" ёсць свая спецыфіка -- газета разумее, што ставіць знак роўнасці паміж беларусамі, якія жывуць там і якія жывуць тут, нельга. Газеце давярае вялікая група эмігрантаў, праз яе ідзе сувязь паміж рознымі эміграцыямі -- амерыканскай і аўстралійскай, у Вялікабрытаніі і Канадзе... Таму лічу "Голас Радзімы" выданнем патрэбным.

Не скажу, што я пастаянны чытач, але вашу газету праглядаю даволі рэгулярна, і ў мяне склалася ўражанне, што яна са сваімі задачамі спраўляецца.

*-- Вялікі дзякуй, Генадзь Мікалаевіч, за цікавае інтэрв'ю і за добрыя словы пра нашу газету.*

**Гутарыла**
**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**Алесь СТАВЕР**

## СЛАЎСЯ, МІР

**Вечар сыпануў на неба зорак,**
**Апавіў прасторы цішынёй.**
**Выбегла бярозка на пагорак, --**
**Падзівіцца зорнай вышынёй.**

**Стройная, у свежым аксаміце,**
**Як брыльянты, на лістах раса.**
**Салавей, ачнуўшыся ў ракіце, --**
**Заспяваў на розных галасах.**

**Зорны водсвет і бярозкі ўзоры.**
**Над ракітай трэлі пачуцця, --**
**Спавілося ўсё ў зямным прасторы**
**У адну гармонію жыцця.**

**Слаўся, мір! Славутай будзь, Айчына, --**
**Дзе так люба жыць і працаваць,**
**Дзе прыгожа з песняй салаўінай**
**І чакаць, і верыць, і кахаць.**

## СВІЦЯЗЯНКА

**Сінім вечарам, ці сінім ранкам, --**
**Як засвеціць расой сенажаць, --**
**Свіцязянка, мая свіцязянка,**
**Выйдзі, выйдзі мяне сустракаць.**

**За табой, як за песняй-заранкай,**
**Я пайду да квяцістых лугоў.**
**Свіцязянка, мая свіцязянка,**
**Чараўніца маіх юных сноў.**

**Для цябе кветку шчасця, вяснянка,**
**Адшукаю ў любую пару.**
**Свіцязянка, мая свіцязянка,**
**Я каханне табе падару.**

**Сінім вечарам ці сінім ранкам, --**
**Як засвеціць расой сенажаць,**
**Свіцязянка, мая свіцязянка,**
**Выйдзі, выйдзі мяне сустракаць...**

## БЕЛАРУСКІ ДРУК У АМЕРЫЦЫ

# ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ "ВЕДЫ"

Амаль дваццаць гадоў часопіс "Веда" не выходзіў. Верагодна гэта час, калі ягоны рэдактар цалкам прысвяціў сябе справе свайго жыцця -- "Беларуска-расійскаму слоўніку" і перакладу Бібліі. За тры гады да свайго адыходу на вечны спачын Ян Адамовіч выдаў два ратапрынтныя выпускі "Веды" (1973, т. V, NN 1--2) з падзагалоўкам: "Часопіс для вызнаваньня мовы вялікалітоўскае й гісторыі Вялікалітвы-Беларусі". Фармальна адмовіўшыся ад этноніма "Крывіч" як сіноніма і аўтэнтычнай назвы Беларусі, стары прафесар і змагар за беларускую ідэю захаваў свой ранейшы палемічны запал і сваю фундаменталісцкую канцэпцыю гісторыі і культуры Беларусі. Гэта засведчылі чатыры ягоныя артыкулы: "Пра тое, якою мае быць наша мова" (без подпісу), "Ці ездзіў доктар Пранціш Скарына да Масквы?", "Да імені доктара Скарыны", урэшце, "Да паходжання Хведара Дастаеўскага". У палеміцы з вядомым скарыназнаўцам В.Тумашам Я.Станкевіч абвяргаў гіпотэзу пра верагоднае падарожжа нашага першадрукара ў Маскву для пашырэння там Бібліі ў сваім перакладзе. Апрача таго, даказваў, што іншаземныя імёны (у даным выпадку польскае Францішак і лацінскае Францыск) паводле беларускай народна-моўнай традыцыі набываюць свае, нацыянальныя формы. Таму не Францішкам, а Пранцішам павінны мы зваць беларускага асветніка.

З іншых палемічных твораў Яна Станкевіча, матэрыялы да якіх публікаваліся ў часопісе "Веда", увагі гісторыкаў і лінгвістаў заслугоўвае ратапрынтнае выданне кніжкі "Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі" (Мюнхен, 1956). Аўтар пачынае з рэцэнзіі на калектыўную "Историю БССР" (Мн., 1954), выдадзеную Інстытутам АН БССР, і, абвяргаючы прарасійскую пазіцыю аўтараў, развівае сваю ўласную гістарычную канцэпцыю, абгрунтаваную першакрыніцамі, шматлікімі даследаваннямі дарэвалюцыйных рускіх і замежных гісторыкаў, археолагаў, лінгвістаў. Своеасаблівым дадаткам да гэтай манаграфіі стала кніга "З гісторыі русіфікацыі Вялікалітвы" (Нью-Йорк, 1967). У яе ўвайшлі фрагменты з кніг вядомага лідэра расійскіх чарнасоценцаў А.Пурышкевіча "Преобразование духа народности" і беларускага гісторыка-адраджэнца А.Цвікевіча "Западно-русская" школа і яе прадстаўнікі" (часопісны варыянт пазнейшай кнігі "Западноруссизм" з каментарыямі Яна Станкевіча.

У заключэнне неабходна паразважаць пра генезіс крывіцкай (пазней -- вялікалітоўскай) канцэпцыі Яна Станкевіча. Дасведчаны чытач не можа не ўспомніць часопіс "Крывіч", які выдаваўся Вацлавам Ластоўскім (Коўна, 1923--1927). Цікавасць да спрадвечных народных асноваў беларускай мовы, культуры, дзяржаўнасці ў Ластоўскага прыкметна выявілася ў "Нашай ніве", дзе з 1909 года ён быў сакратаром рэдакцыі і аўтарам шматлікіх публікацыяў. Пазней -- у часопісе "Гоман" (1916--1918). Нарэшце, -- у часопісе "Крывіч" і фундаментальнай "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі" (Коўна, 1926).

Ускосным чынам Ян Станкевіч прызнаў Ластоўскага сваім папярэднікам, калі пісаў у звароце "Ад рэдакцыі" часопіса "Веда": на Бацькаўшчыне "маладая навука крывіцкая, што так хараша стала развівацца ў 20-х гадах, запынена, нат чыста задушана рукамі камуністычнае Масквы" (1951, студзень). Пазней у нарысах "З гісторыі Беларусі" (Мюнхен, 1958) Ян Станкевіч, даючы характарыстыку нашаніўскім адраджэнцам, назваў В.Ластоўскага "фактычным прадстаўніком народнай плыні" ў беларускім руху, сябры якой "зьдзейсьнілі найболей дзеля беларускага нацыянальнага адраджэньня". Але вучні не часта аддаюць належнае сваім настаўнікам. Вось і Ян Станкевіч недаацаніў талент і канцэптуальнасць думкі Вячаслава Ластоўскага (так зваў ён на беларускі лад Вацлава Ластоўскага), лічачы яго дылетантам у гістарыяграфіі і лексікалогіі. Паводле Я.Станкевіча, "Кароткая гісторыя Беларусі" вельмі слабая, а ягоны "Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік" (Коўна, 1924) "ёсць запраўды сапсаваным матэрыялам да беларускага слоўніка". Аднак усё ж зазначыў, што "трэба высока ацаніць добрае разуменне ў Ластоўскага патрэбаў беларускага народу наогул" у даследаваннях нацыянальнай мовы і гісторыі.

Між тым ёсць відавочная паралель, нават сіметрыя паміж светапоглядам, навуковымі гіпотэзамі і тэрміналогіяй Ластоўскага і Станкевіча. В.Ластоўскі быў прызнаным лідэрам нашаніўскага адраджэнскага руху, калі Станкевіч пасылаў у "Нашу ніву" свае нататкі і допісы. В.Ластоўскі -- аўтар першага нарыса гісторыі Беларусі, напісанага беларускім адраджэнцам. Пазней ён распрацаваў сваю крывіцкую канцэпцыю гісторыі Беларусі, значна пашырыўшы беларускія межы на ўсходзе, захадзе і поўдні. Ян Станкевіч усё жыццё прысвяціў роднай мове і гісторыі Беларусі, імкнучыся прыдаць напоўнавуковай і напоўлітаратурнай гіпотэзе Ластоўскага выгляд закончанай навуковай сістэмы. Абодва бачылі ў Вялікім Княстве Літоўскім беларускую (крыўскую) дзяржаву. Урэшце, абодва абапіраліся ў сваіх праектах ачышчэння беларускай літаратурнай мовы на невычэрпныя крыніцы народнай гутарковай мовы. Была, зразумела, і розніца ў іхніх жыццёвых і навуковых лёсах. В.Ластоўскі -- (самавук) не толькі даследчык, але і паэт, празаік, літаратурны і мастацкі крытык. Ян Станкевіч -- доктар навук і прафесар. Але, адзначым, і ён не быў вучоным акадэмічнага тыпу, скарэй імправізатарам-канцэптуалістам. І абодва шмат увагі аддавалі беларускай этнаніміцы -- даследаванню аўтэнтычных назваў нашага народа. У рэшце рэшт, В.Ластоўскаму належыць прыярытэт абвяшчэння вялікакрывіцкай канцэпцыі беларускай гісторыі, і гэта павінен быў ведаць і прызнаць ягоны больш адукаваны "нефармальны" вучань. Нельга забываць, што В.Ластоўскі некалькі гадоў быў аўтарытэтным беларускім акадэмікам і неадменным сакратаром Беларускай акадэміі да яе пагрому бальшавікамі ў 1930--1933 гадах. І дай Бог такіх акадэмікаў сённяшняй Беларусі, знявечанай татальнай русіфікацыяй.

Летась на юбілейнай навуковай канферэнцыі "Вацлаў Ластоўскі -- выдатны дзеяч беларускага адраджэння" (Полацк, 26-29 кастрычніка 1993 года) я прапанаваў назваць "крыўскую" канцэпцыю нашай Бацькаўшчыны беларускім нацыянальным фундаменталізмам. Але ў нас, здаецца, усё яшчэ баяцца такіх "ваяўнічых" паняццяў. Між тым, тэрмін "фундаменталізм" узнік на бяскрыўднай, скажам так, "царкоўнай аснове". Паводле даведніка "Современная западная философия" (М., 1991), ім пазначана "кансерватыўная плынь у сучасным пратэстантызме", прадстаўнікі якой патрабуюць прыняць за аснову (фундамент) веравучэння ўвесь змест Святога Пісання, адмаўляюць любыя спробы яго алегарычнага і рацыяналістычнага тлумачэння. Палітызаваўшыся, гэтае паняцце сёння "прystала" да ісламскай ідэалогіі аўтарытарнай дзяржавы.

Сёння паняцце фундаменталізму спакваля пераходзіць на характарыстыкі рэлігійнай артадоксіі, бескампраміснага самасцвярджэння нацыянальных, этычных і экалагічных каштоўнасцяў. Да гэтага пераліку дабаўлю лінгвістычны фундаменталізм, які з'яўляецца на свет Божы не толькі ў класічную вясну культураў, але і ў восеньскую пару размывання іх рэгіянальнай самабытнасці.

Трэба ўзяць пад увагу драматычны гістарычны час, калі ўзнік беларускі нацыянальна-культурны фундаменталізм і калі адбылася яго моцная рэмініспэнцыя ў творчасці Яна Станкевіча. У першым выпадку (часопіс "Крывіч") пасля таго, як Еўропа "не прызнала" Беларусь, а суседзі падзялілі яе на часткі і спрабавалі пракаўтнуць, "пераварыць". У другім выпадку (кніга Я.Станкевіча "Крыўя-Беларусь у мінуласці" і ягоны часопіс "Веда") -- тады, калі Беларусь стала арэнай, магчыма, самай страшнай вайны ў гісторыі, а пасля вайны -- аб'ектам татальнай дэнацыяналізацыі.

Беларускі культурна-нацыянальны фундаменталізм -- гэта не выдумка рамантыка Ластоўскага і лінгвіста Станкевіча. Ягонае быццё засведчыла нацыянальная гісторыя і культура. Сёння, калі Беларусь -- на раздарожжы, калі яе здрадлівыя дзеці не хочуць бачыць сваю Маці, а сёй-той марыць далучыцца да Расіі ў якасці правінцыі, нацыянальны фундаменталізм мог бы паслужыць, калі можна так сказаць, "ідэятэрапіяй" для тых, хто згубіў не толькі народную спадчыну, але і жыватворны аптымізм нацыянальнай перспектывы.

У нашым фундаменталізме ёсць нешта ад тытанічнага выкліку самазваным багам. Тут -- драма, роўная Праметэявай. Як казалі даўней: "Мне отмщение и язъ воздамъ!"

**Уладзімір КОНАН.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 38—41.**

З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ

# ЗВЯНО Ў ЛАНЦУЖКУ ДЗВЮХ КУЛЬТУР



"Прырода была, ёсць ды й заўжды будзе маім натхненнем. Яна для мяне ёсць рэлігія. Стаўленне да прыроды, як да боскай з'явы, абуджае духоўныя перажыванні і яднае маю душу з велічнасцю свету", -- кажа пра сябе мастачка Тамара Стагановіч, выстава якой праходзіць цяпер у Мастацкім музеі ў Мінску.

Яна нарадзілася на Навагрудчыне. Разам з бацькамі ў 1950 годзе эмігрыравала ў ЗША, дзе жыве і цяпер. Тамара Стагановіч атрымала вельмі добрую адукацыю. Яна скончыла Вэстэрн Коледж, Оксфард з дыпломам бакалаўра. Вучылася ў Нью-Йоркскім універсітэце -- Інстытут Прыгожага Мастацтва. Таксама ў Нью-Йорку яна скончыла Калумбійскі універсітэт з дыпломам магістра Прыгожага Мастацтва, а потым студыявала літаграфію і медзярыты ў Мастацкай студэнцкай лізе. Крытыкі яшчэ ў 1968 годзе заўважылі яе творы і назвалі Т.Стагановіч прадстаўніцай "абноўленага імпрэсіянізму нашых дзён".

Фарбы, якімі піша Т.Стагановіч свае карціны, уражваюць насычанасцю, цеплынёй. Часам яны буяюць, захапляюць экспрэсіўнасцю, тэмпераментнасцю. Гэта "Вялікі каньён, штат Арызона", "Надыходзячая бура, штат Паўночная Дакота". На апошняй карціне -- цёмнае злоснае неба, зацягнутае хмарамі, якое вось-вось выбухне дажджом і маланкай. Праз смугу прабіваюцца промні сонца і, пераліваючыся ў паветры, пераходзяць у амаль жоўты колер зямлі. Большасць карцін Тамары Стагановіч напісаны пяшчотнымі фарбамі. Ад іх ідзе адчуванне лёгкасці, спакою і цеплыні.

Мастачка сваімі творамі прымушае дзівіцца прыгажосці прыроды Амерыкі. Гэтай выставай яна хацела паказаць беларусам, якая багатая прырода краіны, дзе яна жыве, паказаць тыя краявіды, што сапраўды кранулі яе сэрца: "Пазіраю ды ўпіваюся колерамі прыроды, захапляюся яе настроямі, сумнымі ды вясёлымі, тады яе настрой становіцца маім настроем". Багацце прыроды і майстэрства мастака нараджаюць раскошныя пейзажы, што пакараюць сваёй прыгажосцю і экзатычнасцю.

Тамара Стагановіч з асаблівай цікавасцю ставіцца да культуры амерыканскіх індзейцаў. Яна кажа, што яе ўспрыняцце свету блізкае да іх светаадчування: "Чалавек павінен жыць у гармоніі з Космасам". Іхняя вера абудзіла любоў мастачкі да іхняга стылю жыцця, іхняга мастацтва і архітэктуры. Таму вялікая частка работ Тамары Стагановіч звязана з амерыкана-індзейскім жыццём. Партрэты індзейцаў незвычайныя для вока нашага гледача. Яны прымушаюць спачатку здзівіцца, потым звыкнуцца з дзіўнымі фарбамі і вобразамі і нарэшце захапіцца ззяннем бронзы на карцінах, якая ідзе і ад індзейца, і ад узыходзячага сонца.

Адкрыццё выставы Тамары Стагановіч праходзіла вельмі ўрачыста -- з цудоўным дзіцячым хорам, з шампанскім і закускамі. Было шмат добрых слоў і віншаванняў. Мастачка выглядала ўсхваляванай і задаволенай. Яна казала, што вельмі баялася ехаць на Беларусь. Ёй здавалася, што там яна згубіць дзяцінства. Але з цягам часу Тамара Стагановіч зразумела, што нічога ў свеце не застаецца на месцы, усё змяняецца. Цяпер ёй здаецца, што яна не тое што не згубіла, а, наадварот, папоўніла свае ўражанні і ўспаміны пра дзяцінства ў сустрэчах з Беларуссю і з роднымі.

Амерыка прыняла сям'ю Стагановічаў, дала адукацыю мастачцы. Беларусь жа адраклася ад гэтых людзей. Дзіўна і вельмі прыемна, што Тамара Стагановіч захавала любоў да сваёй радзімы і не трымае на яе крыўды.

Скончыць маленькія нататкі з выставы Т.Стагановіч хацелася б словамі вядомага і паважанага на Беларусі навукоўца Адама Мальдзіса: "Доўгія дзесяцігоддзі лічылася, што ёсць дзве беларускія культуры. Адна -- дадатная, станоўчая, прагрэсіўная -- тут на Беларусі. Другая -- рэакцыйная, не вартая нашай увагі -- за рубяжом. Сёння мы прыйшлі да разумення, што беларуская культура адна, што яна была б намнога бяднейшая, калі б яе не ўзбагачалі творы беларусаў, народжаныя ў замежжы. Сённяшняя сустрэча з мастацтвам Тамары Стагановіч -- звяно ў ланцужку аб'яднання дзвюх культур".

Алена СПАСЮК.

НА ЗДЫМКАХ: мастачка Тамара СТАГАНОВІЧ і яе працы: "У нацыянальным лесе Тонта, штат Арызона", "Зубры, Елаўстонскі нацыянальны парк, штат Ваёмінг".





## ПРЫВАБНАЯ ПЯШЧОТНАЮ ТРАДЫЦЫЙНАСЦЮ

"Кацяня Гаў" Р.Осцера ў пастаноўцы Аляксея Ляляўскага распачне прэм'еры новага сезона Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі. На традыцыйных шырмах з вясёлымі выявамі дамкоў з'явяцца Кацянё з дзіўнаю мянушкаю Гаў (Дзіна Іванова) і Шчаня, якое, захапіўшыся новымі знаёмствамі ды гульнямі, забылася сваё імя... У выкананні Валянціны Белаш гэтая роля, бадай, самая абаяльная ў спектаклі.

Сімпатыі выклікае і Кот Уладзіміра Варанкова, дарослы хітраван адмысловага свету, у якім ідзе бясконцая грамадзянская вайна катоў з сабакамі. Праўда, ягоная ўласная вайна з Сабакам канчаецца перамір'ем на абед...

Не новая п'еса, магчыма, не самая найлепшая з тых, якія могуць быць прадстаўлены нашай дзіцячай аўдыторыі. Але суладдзе мастака Аліны Фаміной і рэжысёра Аляксея Ляляўскага паспрыяла ўзнікненню невялікай павучальнай гісторыі ў дзвюх дзеях, асноўнай думкай якой сталася думка пра магчымую дружбу катоў з сабакамі -- ім, па вялікім рахунку, няма чаго дзяліць. Гісторыя па-свойму прывабная пяшчотнаю лялечнаю традыцыйнасцю, тою, якую не так лёгка спавядаць і даводзіць без "жывых планаў", авангардных прыёмаў ды арыентавання на самую дасведчаную аўдыторыю.

## СПОРТ

### ПЕРШЫЯ АЧКІ

Няўдалым аказаўся старт алімпійскай і нацыянальнай футбольных каманд Беларусі ў Нарвегіі. Яны прайгралі.

Затое дома змаглі перамагчы зборныя Люксембурга. Алімпійцы выйгралі з лікам 3:0, а нацыянальная каманда Рэспублікі Беларусь, якая гуляла адборачны матч першынства Еўропы, нанесла паражэнне сапернікам -- 2:0.

### ТАК БЫ І ДАЛЕЙ

Прыемная навіна прыйшла з Прыбалтыкі: у Рызе і Каўнасе праведзены матчы другога тура міжнароднай баскетбольнай прафесійнай "Балтыйскай лігі" сярод жаночых каманд.

Усе свае гульні спартсменкі мінскага "Гарызонта" выйгралі, што дазволіла нашым землячкам стаць лідэрам. Наступны тур пройдзе ў беларускай сталіцы.

### ЗАХАВАЛІ ТРАДЫЦЫІ

І ў час існавання СССР беларускія спартсменкі складалі касцяк зборнай краіны па мастацкай гімнастыцы. І ва ўсіх спаборніцтвах займалі высокія месцы.

Такая традыцыя захавалася і сёння. Нядаўна ў Парыжы прайшоў чэмпіянат свету. Зборная Беларусі, выступаючы асобнай камандай, заняла чацвёртае месца. А ў асабістым заліку вызначылася Ларыса Лук'яненка. Спачатку яна заваявала "серабро" ў абсалютным першынстве, а пасля ў практыкаванні з абручом набрала лепшую суму ачкоў і ўзнагароджана залатым медалём.

Высокае месца на гэтым чэмпіянаце заняла і яшчэ адна беларуская спартсменка -- Вольга Гонтар, якая ўвайшла ў пяцёрку мацнейшых гімнастак свету.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 42. Падпісана да друку 17. 10.1994 г.